№ 61. 11 верэсьня 1916 г. Цэна 5 фэн.

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АУТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## У апошні момэнт.

—s—

### 11 верэсьня.

**Заходні фронт:**

*Фронт Альбрэхша Вюртэмбэрскаго:* Нічога новаго.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* За вялікай англіцкай атакай 9.IX ішлі учора агранічэные, але сільные удары ля дарогі Поз'ер—ле Сар і проці адрэзку Жэншi—Комбль. Яны адбіты. Каля Жэншi сягоньня ад раніцы развіваюцца новые бітвы. Учора ў апісаных бітвах на штыкі пры Лёнгваль і каля гаю Лез, між Жэншi і Комбль, нашы высунутые ўпярод акопы апынуліся ў руках ворагоў.

На палудні ад Соммы французы дарэмна атакавалі пры Бэлюа і Вэрмандовільe. Мы ўзялі назад некалькі занятых ворагамі 8.IX дамоў у Бэрні і захапілі ў палон каля 50 душ.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Ад часу да часу ішлі больш сільные артылерыйскіе бітвы на-права ад Маасу.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Набапол Старо-Чэрэвішчэ сільные расейскіе атакі, як і той раз, крывава адбіты.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Бітвы між Залатой Ліпай і Днестрам 7, 8 і 9 верасьня становяць спробу расейцоў, карыстаючы с сваей удачы 6 IX, шыбкім націскам на Бурштын **прарвацца** і пры гэтым **здабыць Галіч.** Мудрая зашчыта генэрала графа Ботмэра **не дала** споўніць гэты плян. Расейцы мелі незвычайна цяжкіе страты.

У Карпатах палажэньне, наагул, без перамен.

**Балканскі фронт:**

Асаблівых прыпадкоў не было.

**Людэндорфф.**

**Заява Заіміса.**

АФІНЫ. Міністэр - прэзыдэнт Заіміс сказаў карэспандэнтам газэт, што пакуль ён будзе галавою грэцкаго ураду, **недаразуменьня між Грэцией і Боўгарыей не падобны да веры.**

**Адгалоскі упадку Сілістры.**

БЭРЛІН (В. Т. Б.). Урадовая «Nordd. Allgem. Ztg.» пішэ:

Прэбываньне боўгарскаго цара ў нямецкай глаўнай кватэры зыходзіцца з весткай аб пабедзі пад Сілістрыей. Мы с поўнай верай жджэм новых пабед злучэных войск.

БУКАРЭШТ. Весткі аб нямецка-боўгарскіх удачах у Добруджы вызвалі ў народзі страшэнную паніку. Трох афіцэроў народ забіў камнямі, вырваўшы з бруку.

Філіпэску с прычыны налёту нямецкіх лятуноў на Букарэшт пішэ:

Немцы, відаць, хочуць ня толькі ваеваць з Румыніей, але і ненавідзяць яе ды хочуць адамсьціцца.

**Хвароба Барка.**

ПЕЦЯРБУРГ. Паводлуг газэтных вестак, міністэр фінансоў Барк **цяжка захварэў.**

**«Свабода друку».**

ПЕЦЯРБУРГ. Штырмэр забараніў газэтам памешчаць весткі аб мобілізацыі, ураджаю, заработнай плаце і настраеньні народу.

**Кошты вайны**

БЭРН (В.Т.Б.). Паводлуг мэмор'ялу французскаго міністра фінансоў Рібо, выдаткі Францыі за гэты год—**32,35 мільярдоў** проці 22,7 мільярдоў леташняго году. З гэтай суммы **23,66 мільярдоў** проці 15, 7 таго году ідуць на чыста ваенные выдаткі.

## З апошніх дзён.

—s—

**Нямецкіе апавешчэньня.**

8.IX. **На заходнім тэатры:** На поўначы ад Соммы англічане і французы былі адбіты з вялікімі стратамі. Толькі на заходзі ад Бэрні некаторые адрэзкі акопоў асталіся ў іх руках. На право ад Маасу, пад фортам Сувіль, немцы утрацілі часць сваей тэрыторыі.

**На ўсходнім тэатры:** У Карпатах, пры Зялёнай і Шыпоце, ішлі удачные нямецкіе атакі.

**На Балканскім тэатры:** На поўначы ад Добрыча боўгарска-турэцкае войско ізноў адбіло вялікіе расейска-румынскіе сілы.

9.IX. **Заходні тэатр:** На Сомме— без значных пешых бітв. На право ад Маасу, каля форту Сувіль, зьменные бітвы. Мы адбілі часць пазыцый, утрачэных учора. Ад Тіомон да лесу Шапітр—заядлы артылерыйскі агонь з абедзьвых старон.

**Усходні тэатр:** Між Залатой Ліпай і Днестрам—далейшые расейскіе атакі. Контратакамі турэцкае войско выкінуло расейцоў з занятых імі часьцей нашых пазыцый. Узяты больш 1000 палонных і некалькі кулемётоў. У Карпатах пры Капулю пад націскам мы адыйшліся назад.

**На Балканскім тэатры** каля Добрыча адбіты новые расейскіе атакі.

10.IX. **Заходні тэатр:** Бітва на Сомме пасьля пазаўчорашняй перадышкі трывае далей. Англіцкі удар на шырыні 15 кілёмэтроў між Тіэпваль—Комле зломлен ненарушымай цьвёрдасьцю войск пад камандай барона Маршала і Кірхбаха. Пры Лёнгваль і Жэншi ешчэ не закончыліся штыкавые бітвы. На адрэзку Барле—Бэлюа французы крывава адбіты палкамі генэрала ф. Кваст. Пры Шольн, ачышчаючы часьці акопоў, мы узялі палонных і 6 кулемётоў. На право ад Маасу, на палудні ад Тіомон і на ўсходзі ад Флеры уварваўшыеся ворагі ў новых бітвах выкінуты контратакаю.

У бітвах на паветры ворагі страцілі 9 аэропланоў—перэважна над Соммай, а ад нашаго зашчытнаго агню—3. Бэльке збіў свой 22 аэроплан.

**Усходні тэатр:** Ад мора да Карпатоў, ня лічучы новых дарэмных расейскіх атак проці баварскіх войск пры Старо-Чэрэвішчы, на Стоходзі,—палажэньне бяз зьмен У Карпатах, на Заходзі ад Шыпот, ворагам удалося пасунуцца ўпярод. На палудні ад Дорна Варта нямецкае войско спаткалося з румынскім.

**Балканскі тэатр: СІЛІСТРЫЯ УЗЯТА. Крывавые страты румыноў і расейцоў—надта вялікіе.**

**Ізноў налёт на Констанцу.**

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нямецкіе лятучые эскадры абкідалі бомбамі Констанцу і стаяўшые ў порці расейскіе ваенные параходы. Усе лятуны вярнуліся назад.

**Прыезд боўгарскаго цара.**

БЭРЛІН (В.Т.Б.), Боўгарскі цар з насьледнікам і сьвітаю прыехаў у нямецкую глаўную кватэру на ўсходзі для перэгавороў.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 7 IX. **На усходнім тэатры:** На румынскім фронці аўстрыяцкае войско пры Оля-Топліцы ўзято назад.

На фронці эрц-гэрцога Кароля ў Карпатах заядлые атакі расейцоў, часьцю штыкавые, адбіты з надта цяжкімі стратамі. Пры Фундуль—Мольдові ўзяты ў палон 88 душ. Між Залатой Ліпай і Днестрам аўстрыякі сваю лінію адсунулі назад.

ВЕНА 8.IX. **На усходнім тэатры:** На румынскім фронці на заходзі ад Чык—Чэрэда нашае войско перад націскам перэважываючых сіл ворагоў адсунулося назад на горы Гарыгітагэ.

На фронці эрц-гэрцога Кароля, ў Карцатах і ў Усходняй Галічыні далей трываюць заядлые бітвы, асабліва на ўсходзі ад Галіча. Ворагі тройчы дарэмна атакавалі. Усё пазыціі удзержаліся,

**На італьянскім тэатры:** На приморскім і Тырольскім фронці безупынная артылерыйская бітва. Пры Валь—Морбія узяты ў палон 55 душ.

ВЕНА. 9.IX. **Усходні тэатр:** На румынскім фронці, ў Карпатах, нашае войско адкінуло ворагоў назад блізка на 4 кілёмэтры. Сільнай контратакай ворагі прымусілі нас вярнуцца на нашы старые пазыціі. (Далей гл. нямецкае апавешч.).

**Гл. Тэлеграмы на 4 страніцы.**

# ВАЕННАЯ ПАЗЫКА—ГЭТА АРУЖЖЭ АСТАЎШЫХСЯ ДОМА!

## Бэльгія і... Беларусь.

Бэльгія і наш Край—на першы пагляд яны нічога супольнаго мець ня могуць, а ўсёж-такі у іх ёсць адна супольная рыса, каторая выступае вельмі ярка. У нас прывыклі глядзець на Бэльгію, як на француску.ю зямлю; але гэта—абмылковы пагляд. Ні ў сваей мінуўшчыне, ні цяпер Бэльгія не была і ня ёсць францускай: глаўная часць жыхароў яе—гэта фляманды, народ германскі; меншая населена романскім народам валонамі, каторые гавораць сваей асобеннай, адменнай ад францускай мовай. Валоны гэтак розняцца ад французоў, як пражываючые ў усходняй часьці Прусіі мазуры—ад палякоў. Незавідные палітычные варункі і суседзтво Франціі зрабілі тое, што француская культура і француская мова пашырліся ня толькі між блізкімі да французоў валонамі, але і між вышэйшымі і сярэднімі класамі флямандцоў. Шляхта зусім адраклася ад свайго народу і роднай мовы і абярнулася у служак французоў. У вялікіх местох буржуазія пайшла па сьлядох шляхты і гэтак сама афранцузілася. Верным сваей мове і нації асталося толькі дробнае мешчанство па мястэчках, ды массы селянскаго люду.

С Парыжа слалі нялічэные грошы, каб за іх вясьці далей дэнацыоналізацію Бэльгіі. Францускіе пакаёўкі і прачкі напоўнілі ўвесь край, і ў Генці, Лювэні і іншых местох іх можна было спаткаць у кожным доме. Флямандзкіе селянкі, каторых массамі выпісывалі на службу ў Парыж, глаўным чынам за мамак (іх французы называлі «флямандзкімі каровамі»), пражыўшы ў сталіцы Франціі год—другі, верталіся да хаты ўжо як «чыстакроўные парыжанкі». Але ўсё гэта не магло афранцузіць массы флямандзкаго селянства. Ў ім ў першай чверці мінуўшаго сталецьця нарадзіўся нацыональны флямандзкі рух, каторы выступіў на змаганьне с чужынцамі і іх прыслужнікамі с-папіж сваіх людзей.

Ня будзем тут апісываць ходу флямандзкаго нацыональнаго адраджэньня: адзначым толькі, што блізка праз 100 гадоў работы флямандцы маюць сваю багатую літэратуру, вельмі пашырэную прэссу; флямандзкая мова—абавязковая мова пры навучаньні у школах, прызнана ў судох, адміністраціі, парлямэнці. С прыходам немцоў споўнілася і старая думка флямандцоў аб вышэйшай школі: ў Генці аткрыўся флямандзкі унівэрсытэт.

Калі прыраўнуем да Бэльгіі наш Край, дык убачым, што ў іх ёсць і больш супольных рысоў. Толькі нашае адраджэньне пачалося значна пазьней, дык і рух беларускі шмат слабейшы за флямандзкі. Дый німа ў нас ешчэ аднаго: нацыональнаго духавенства. Флямандцы—каталікі: сыны іх, каторые паступаюць на ксяндзоў, астаюцца вернымі свайму народу, працуюць для яго і вядуць работу нацыональнаго адраджэньня. У нас—наадварот: сын беларускай вёскі, пабыўшы ў духоўнай сэмінарыі ў Вільні, а тым болей у акадэміі ў Пецярбурзі, лічыць, што ад навукі ў яго жылах зьмянілася кроў беларуская, што ён стаўся чужым для свайго народу.

Але як ні сумна гэта, мы верым, што і ў нас гэта мінецца. Наступіць момэнт, калі і ў нашым Краю духавенство—пры новых варунках, хоч-ня-хоч, прымушэно будзе зьмяніць сваю пазыцію. І мы глядзім упярод с цьвёрдай вераю, што *на нашай зямлі будучына прыналежыць беларускаму народу*!

## З апошніх дзён расейскаго панаваньня.

(Успамін).

II.

Дзень за днём перэбіраеш апошніе момэнты перад адходам расейцоў з нашаго места год таму назад, і ўсё гэта здаецца нейкім сном: гэтак шыбка здарэньня ішлі за здарэньнямі!

Расейцы на развітаньне з народам надумалі нялічэнае число старых і новых крыўд дапоўніць ешчэ аднэй: яны пастанавілі забраць с сабой усе віленскіе званы! Свой пуступак у офіцыальных адозвах уласьці тлумачылі тым, што бытцым-то немцы ў занятых землях знімаюць касьцельные званы і перэплаўляюць мэталь на ваенные патрэбы. І хоць ніхто ў гэта ня верыў, аднак гэта прычына была ядынай, якую выстаўлялі ўласьці. С праваслаўнаго сабору і іншых царквей званы былі зняты даволі ціха; але каталіцкае насяленьне было страшэньне абурэно захватам касьцельных рэчэй. У народзі з вуст у вусты пайшлі гутаркі: «званоў не даваць! ніхай гвалтам бяруць!» Ля дзьвярэй да касьцельнай вежы пры Катэдры і Сьв. Яне збіраліся сперша невялікіе грамадкі людзей, а пасьля з гадзіны на гадзіну пачалі узрастаць, павялічывацца. Нікога чужога не пускалі. Пільнавалі чуць-што не тры дні — і ў дзень і ў начы: партіі вартаўнікоў, або лепей вартаўніц—правільна зьменялі адна адну. У Сьв. Яна губэрнатар прабаваў супакоіць народ, але яго ніхто слухаць не хацеў: пасыпаліся вострые словы, лаянкі. Народ заўзяўся: з'явіліся нават «проклямаціі» — маленачкіе, друкаваные нейкім прымітыўным способам картачкі, у каторых невядомые аўторы звалі людзей вытрываць і званоў не даваць, пазываючыся на прыклад Варшавы, не пазволіўшай забраць званоў.

Невядома, чым бы скончылася гэта справа ў Вільні, але тут умешалося духавенство, каторае пайшло на уступкі. Расейскіе ўласьці с свайго боку апавесьцілі, што званы з надпісамі на іх, з якога касьцёлу каторы ўзят, будуць перавезены ў Маскву; што разам з імі могуць ехаць без ніякай платы даверэные ад парахвіян людзі, каторые і дапільнуюць, каб званы былі здадзены у пэўные рукі. І народ супакоіўся, хаця вельмі неахвотна.

Сумна выглядала цэрэмонія зніманьня званоў, да каторых віленцы гэтак прывыклі, што здалёку распазнавалі, каторы звоніць.. Кабеты плакалі, дый у мужчын відаць былі сьлёзы ў вачах.

Вывязьлі званы, вывязьлі Мурав'ёва і Кацярыну. І цэлымі днямі ехалі на вагзал гружэные ўселякімі рэчамі вазы. Казённае меньне вывозілі без прашкод, але асобам прыватным трудна было даступіцца да чыгункі: дарога ім аткрывалася толькі... за хабары! Шалёные грошы зарабілі за тые апошніе дні жалезнадарожные чыны.

З грукатам ішлі ўжо праз Вільню расейскіе абозы — на ўсход! Безканечнымі лініямі цягнуліся яны ў дзень і ў начы. Ад часу да часу з'яўлялася грамада адступаўшых салдатоў—астаткі нейкаго палка. Так і ішлі кучай — без ніякаго нарадку, заліваючы вуліцы ў-ва ўсю іх шырыню.

Адначасьне з адступаўшымі салдатамі праз Вільню цягнуліся грамады бяздольнікоў селян, каторых казакі нагайкамі выганялі с хат і гналі перад сабой — у «Матушку-Расею». Усе камітэты помачы ахвярам вайны мелі поўна работы з гэтымі галоднымі, перапуджэнымі, часта збітымі і пакалечэнымі прымусовымі высяленцамі.

Памалу, неўзнак між людзьмі пачала шырыцца паніка. Баяліся ня гэтулькі магчымай бітвы пад Вільняй, колькі грабежств і насільств «сваіх». Казакі ўжо пачалі паказваць, што умеюць: на акраінах места не праходзіла ноч без грабежоў, без насіслств над дзеўчатамі. «Айцы» места радзіліся, што рабіць, але ніякай рады не было; хадзілі да камандуючаго арміей, але і з гэтаго нічога ня выйшло.

На тых, хто не хацеў самахоць кідаць сваю Бацькаўшчыну, расейцы глядзелі, як на «здраднікоў»! Хадзілі чуткі аб прыгатаўленьні «пагрому» гэтым «здраднікам», але неяк Бог бараніў ад гэтаго.

Апошніе дні перад адходам паліція пачала энэргічна вылаўліваць мужчын кажучы, што яны патрэбны на работу. Але для нікога не было сэкрэтам, што тых, каго ўзялі, назад у Вільню ня пусьцяць. Дык людзі хаваліся, дзе хто мог і як мог, а на гэтым грунці віленская паліція збірала багатае жніво: хто хацеў астацца, павінен быў «адкупіцца». І, судзячы паводлуг вельмі здаволеных твароў «апекуноў» народных, пярэчыўшых офіцыальна-сумнаму настраеньню расейцоў, можна было бачыць, як неахвотна віленчукі разставаліся с сваім местам.

А стрэлы гарматніе ўсё бліжэй, усё выразней станавіліся, абвешчаючы хуткую змену... *Г. Б.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Крызіс у коопэратывах.** Віленскіе коопэратывы с прычыны вайны і немагчымасьці падвозу прадуктоў з вёсак даўно ўжо перэжываюць сур'ёзны крызіс. На нейкі час палажэньне іх было палепшало: ім место пачало даваць на прадажу свае тавары — на камісію, нароўні з местовымі крамамі і запісало іх у число местовых крам. Гэтак у коопэратывах абарачывалося даволі многа местовых грошы, і хоць невялікіе працэнты давало место, ўсё-ж такі быў заработак, не ўкладаючы сваіх грошы. Цяпер выдача местовых тавароў скасована. Коопэратывы павінны выпісываць іх за гатовые грошы. Але, як тых грошы на зварот у іх надта мала, дык пасьля аднэй-другой выпіскі ўвесь іх капітал абярнуўся ў тавар, каторы прадаецца памалу, і выпісываць новых тавароў далей нельга.

Палажэньне коопэратыў з гэтай прычыны — вельмі цяжкое. Трэбало-б знайсьці для іх які выхад, наладзіць крэдыт, бо грошы, ўложэные ў тавар, — пэўные, а удзержаць коопэратывы, каторые ў нашым неорганізованым грамадзянстві маюць вялікую вагу, трэбало-б за ўселякую цэну.

× **Бюро Саюза Кватэрантоў** тымчасам аткрыто пры Завальнай вул. д. № 40 (Газэтная Кантора). Хто хочэ запісацца ў Саюз, можэ звертацца туды кожын дзень ад 11 да 1 гадз. раніцай.

× **Агульны жыдоўскі рамесьніцкі саюз** ладзіць сваю краму для прадажы выробленых рэчэй. Члены могуць заяўлаць аб сваіх таварах у Канторы Саюза, Домініканская 17.

× **Сніпішскі аддзел.** Гэтымі днямі аткрыўся трэйці аддзел местовай пажарніцкай дружыны: на Сніпішках. Сніпішкі—гэта найбольш дрэўляная часць места, і затым тамака здаўна была патрэба асобнай пажарніцкай старожы. У свой час гэту задачу меўся выпаўніць сніпішскі аддзел распушчэнай цяпер вольна-пажарніцкай дружыны, але с прычыны недастачы каней, а так сама і убытку людзей пад-час адходу расейцоў з гэтаго нічога ня выйшло. Тым большую вагу мае для Сніпішэк і для суседняй «Ласеўкі» аткрыцьце пастаяннай местовай пажарніцкай старожы.

× **Прадажа формы і ваенных рэчэй** у прыватных крамах дапускаецца толькі с пазваленьня Граданачальніка.

× **Курс рубля**: офіцыальны — 1 м. 90 ф. Пры куплі ў банках — 1 м. 94 ф.; пры прадажы — 1 м. 90 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Нешчасны прыпадак.** 8 верэсьня на Бакшце вуліцы ў доме № 7 здарыўся нешчасны прыпадак. Ядзя дэ Кляры, 11 гадоў, ловячы ката, вывалілася праз вакно з другога этажа. Яна сільна пакалечылася на ўсім целі.

Вызваная карэтка скорай мэдычнай помачы агледзіла дэ Кляры і аставіла ў хаце.

## ЗАГАД.

Аб зборы галоўшчыны ў межах Упраўленьня Обэр Ост.

(Гл. пачатак у № 59).

§ 14.

У асабліва сур'ёзных здарэньнях начальнікі паветовых урадоў

могуць адкладываць выплату галоўшчыны.

§ 15.

Перамены, якіе зрабіліся с прычыны прыбыцьця або выезду (пераезд на жыцьцё, сьмерць, высяленьне і т. д.), прынімаюцца пад увагу лічучы ад пачатку чароднай пасьля гэтаго здарэньня чверці году.

§ 16.

Хто ў сваіх адказах на пытаньня ураду дае сьвядома фальшывые або няпоўные данные, таго караціѝуць штрафам да 20.000 марак.

У прыпадку паўтарэньня гэтаго, апрыч штрафу грашмі назначаецца вастрог да 6 месяцоў.

Калі штрафу грашмі нельга спагнаць, то замест яго за кожные ад 5 да 30 марак назначаецца адзін дзень вастрогу. Наагул жэ кара вастрогам ня можэ быць вышэйша за 6 месяцоў.

Пры спробі адкруціцца ад падатку, незалежне ад штрафу, павінна быць унесена неаплачэная галоўшчына.

§ 17.

Паветовые урады с пазваленьня начальнікоў упраўленьня дзеля пакрыцьця выдаткоў па павет, места, валасць і грамаду маюць права загадаць збор дадатковаго падатку.

§ 18.

У здарэньнях, калі за 1916 падатковы год на моцы іншых загадоў галоўшчына ўжо ўзята, заплачэные грошы залічаюцца асобам, каторые павінны плаціць падатак.

§ 19.

Гэты загад мае сілу ўраз-жэ. Інструкціі, патрэбные для споўненьня яго, выдаюць начальнікі упраўленьня.

Глаўная Кватэра на Ўсходзі, 6 красавіка 1916 г.

Глаўнакамандуючы на Усходзі фон ГІНДЭНБУРГ.
Генэрал-Фэльдмаршалак.

Вышэй пісаны загад гэтым ешчэ раз падаецца да агульнаго ведама.

Вільна, 1 верэсьня 1916 г.

Нямецкі Граданачальнік
Поль.

## З усяго Краю.

### Пачтовы рух.

ГАРОДНЯ. Ад 15 студня, калі аткрылася почта для цывільных жыхароў, на почці ў Гародні здадзены 70,766 корэспондэнцій, у тым ліку 22.297 — у Нямеччыну і 18.265 — у наш Край. Здадзены 3854 пачтовые перэказы блізка на мільён марак. Статыстыка паказвае, што пачтовые зносіны нашаго Краю з Нямеччынай узрастаюць с кожным днём.

### «Гараднянка».

ГАРОДНЯ. На наклейках на «Гараднянцы» апісана гэтая вада так:

„Гараднянская местовая мінэральная вада, аткрытая ў ліпні 1916 году, асьвежаючая, здаровая крынічная жалезная вада. Жалезо у зьвязку з вугляным квасам распушчэно ў вадзе, як фэррогыдрокарбонат. Ужываць мінэральную ваду карысна як хворым, так і здаровым. Яна памагае узбагачываньню крывёй і абмену субстанціі. Змешаная з малаком, яна дае натуральны пажыўны прадукт з жалезам для малакроўных, бледных і слабых асоб. Дзякуючы жалезу ў постаці фэррогыдрокарбонату, «Гараднянка»—першаклясовая сталовая вада. Экспэртыза «Гараднянкі» зроблена спэцыялістамі, каторые вельмі хваляць яе“.

На наклейках памешчэн гэрб Гародні—зубр.

### Танная страўня.

ЛІДА. Тут с падмогай нямецкай уласьці жыдоўская гміна аткрыла страўню, каторая выдае 700 абедоў у дзень. Палавіну абедоў выдаюць дарма, за другую бяруць па 10 фэн.

### Нямецкі пэдантызм.

ВОЎКАВЫСК. Тачыльшчыка Садоўскаго і жыўшую з ім Зофію Духодзіл вінавацілі ў дачы фальшываў прысягі. С прычыны недастатку довадоў іх апраўдалі, але Зофію Духодзіл, назваўшую сябе жонкай Садоўскаго, засудзілі на тыдзень у вастрог.

### Заслужэная кара.

БЕЛАСТОК. Селянка Альбіна Вуткевіч кіём і нажом пакалечыла сваю сястру-удаву за тое, што тая была хвора і не магла рабіць. Альбіну засудзілі на 5 гадоў у папраўчы дом.

### Нялетніе зладзеі.

БЕЛАСТОК. Тут развялося многа кішэнёвых зладзеёў; гэта найбольш хлопцы ад 12 да 15 гадоў, каторые ўжо пасьпелі абабраць многа людзей, крадучы часам па 500 марак.

### Забарона торгу гусьмі.

СУВАЛКІ. Тут забаранілі прыватным асобам таргаваць гусьмі. За гэта караціѝуць вастрогам да 6 мес. або штрафам грашмі да 6 000 марак.

### За фальшывую прысягу.

БАРТНІШКІ, Вілковіскаго пав. Адна кабета за убіўство свайго 4-нядзельнаго дзіцяці засуджэна у папраўчы дом на 15 гадоў. Сьведка, каторая дала фальшывую прысягу на карысць падсудзімай, арэштована на судзе і аддадзена пад суд.

### 15-гадовы грабежца.

ДЗЕВІЛІШКІ, Сэйненск пав. Сын тутэйшаго гаспадара, Сабуліс, 15 гадоў, напаў на хлопца тых жэ гадоў з м. Лоздзеі, абабраў яго на 22 руб. і хацеў яму перарэзаць горла, каб той ня мог на яго пажаліцца. На шчасьце, нож быў тупы, і яму удалося толькі цяжка раніць таго хлопца. Сабуліса засудзілі ў вастрог на 7 гадоў.

### Ахронка для дзяцей.

ЛІБАВА. Ахронка для дзяцей аткрыта ў так-званым «зімовым павільёні» пры Александроўскай вуліцы. У ей можэ стоўпіцца да 200 дзяцей; часць можэ начэваць. Кабеты, каторые ходзяць на работу, могуць пакідаць тут сваё дзіця, каторае дагледаюць і кормяць за надта невялікую плату.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

### „Не час на рэформы“.

ПЕЦЯРБУРГ. Новы міністэр еудоў сказаў карэспандэнту «Рус. Сл.», што цяпер не час на ўнутрэные рэформы.

### «Патрыоты» аб польскай справе.

БЭРН. Пецярбурскі супрацоўнік «Corr. della Serra» даносіць, што за апошні час расейскіе «патрыотычные» саюзы пасылаюць міністру тэлеграфные пратэсты проці развязаньня польскай справы, кажучы, што уступкі палякам збудзяць апэтыты і у другіх народоў Расеі.

### Эканомічные справы.

ЛЮГАНО. Пецярбурскі карэспандэнт «Corr. della Serra» апісывае тамтэйшае эканомічнае палажэньне вельмі цёмнымі колерамі. Многа клапотоў вызывае справа прызапашэньня апалу і прадуктоў для насяленьня на зіму. Устаноўлены 4 посные дні—у аўторак, сераду, чэцьвер і пятніцу. За пару мужчынскіх ботоў назначэна па загаду ўласьцей цэна 60 франкоў. Крамы з ботамі пазакрываліся, каб паказаць, што за гэткую цэну прадаваць ня могуць.

### Крызіс разрастаецца.

БЭРЛІН. «Русск. Сл.» пішэ, што рада міністроў, с прычыны узросту спажыўнаго крызіса, пастанавіла адлажыць на месяц пачатак навукі ў пецярбурскіх школах, каб гэтак стрымаць прыезд вучашчыхся. Апрыч таго пастаноўлено высяліць с Пецярбурга ўсіх, бытнасць каго ў сталіцы непатрэбна, каб гэтак паменшыць чысло едакоў.

«День» пішэ, што крызіс захапіў ужо ня толькі Пецярбург, як было дагэтуль, але ўсю Расею. У Рязані былі работніцкіе разрухі, аб каторых цэнзура не пазваляе пісаць.

### Кітайскіе работнікі.

ПЕЦЯРБУРГ. «Рэч» даносіць, што расейскі урад надумаў выпісаць у фабрыкі на палудні Расеі кітайцоў у вялікім чысьле. Газэта жаліцца, што кітайскі урад сыстэматычна праціўіцца гэтаму і закрыў сваю граніцу для такіх эмігрантоў.

### Спажыўные справы.

ШТОКГОЛЬМ. Развязка пытаньня аб спажыўных справах на моцы дыктатарскай уласьці мае наступіць у найбліжэйшым часі. Усе спажыўные справы будуць аддадзены у асобнае міністэрство—міністэрство спажыўнай мобілізаціі. Міністэрство гэтае будзе аддадзено, здаецца, Шуваеву, а мейсцо ваеннаго міністра займе другая асоба. За гэтае міністэрство асабліва стаяў міністэр сельскай гаспадаркі граф Бобрінскій, каторы заявіў, што расейскіе чыноўнікі гэтак распушчэны, што далей ён ня можэ браць атказ за раздзел лішне малых запасоў прадуктоў.

### Спажыўная дыктатура

КОПЭНГАГА. Пецярбурскіе тэлеграмы даносяць аб прыёмі прэзыдэнтам міністроў Штырмэрам дэпутаціі ад камітэту да спажыўных спраў. Дэпутація заявіла, што палажэньне па ўсей старане—дужа сумнае, і прасіла назначыць, як зроблено ў Нямеччыне, міністра спажыўных спраў з дыктатарскай уласьцю. Надзеі народу на добры ураджай шмат дзе ня споўніліся.

### Пазыка у Амэрыцэ.

НЬЮ-ЮРК (В.Т.Б.). Тут вядуцца перэгаворы аб новай расейскай пазыцэ на 100.000.000 долляроў.

### А хто верне палякам варшаўскую бібліотэку?

ПЕЦЯРБУРГ (В.Т.Б.). Цар пазволіў аткрыць расейскі камітэт для аднаўленьня бібліотэкі ў Львэне пад маршалкоўствам в. кн. Мікалая Міхайловіча. Акадэмія навук, публічная бібліотэка, імпэратарскі унівэрсытэт і іншые навуковые інстытуціі абецаліся даць кніг с сваіх запасоў.

### Без патроноў.

ШТОКГОЛЬМ. У «Русск.Знам.» надрукована стацьця, што запасоў ваенных матэр'ялоў с прычыны шалёнаго расходу іх хваце ўсяго на некалькі месяцоў. Калі не удасцца павялічыць падвоз іх з заграніцы, дык расейская армія можэ апынуцца ў ешчэ больш цяжкім палажэньні, чым год таму назад—у часі адходу з Галічыны.

### На далейшую вайну.

ЛОНДОН. Паводлуг газэт, расейскае правіцельство на вясну заказало 19.200.000 лакцей сукна для арміі.

### Нямецкіе налёты.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 6.IX марскіе лятуны атакавалі расейскіе ваенные сілы каля Арэнсбурга, на острові Эзэлі.

У начы с 6 на 7 адзін нямецкі лятучы карабель закідаў бомбамі расейскіе ангары на Руно, ў Рыскай затоцы.

### Аб бітвах ля Добрыча.

СОФІЯ (В.Т.Б.). «Камбана» пішэ аб бітвах пры Добрычу:

Расейская конная брыгада, атакуючы два боўгарскіе пешые батальёны, даслоўна зніштожэна. У палон узят толькі адзін падпалкоўнік с сваім дзяньшчыком. Яны прасілі міласэрдзя, як „братушкі“, на што боўгарскіе салдаты атказывалі, што „братушэк“ ніхто не зваў.

### Падарожа Мікалая Мікалаевіча.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскіе газэты пішуць, што Мікалая Мікалаевіча ждуць у Кіеві, аткуль ён паедзе у Румынію.

Радко Дмітрыев пакуль-што астаецца на паўночным фронці пад камандай Рузскаго.

### Абецанкі саюзьнікоў.

БЭРН. Галава кадэтоў, Мілюков, пацьвярдзіў карэспандэнту «N. Zurich. Ztg.», што ў умові, зробленай у красавіку 1915 году, Расеі дадзено завэрэньне, што ей аддадуць Дарданэльлі. Расея атрымае ня толькі самую пратоку, але і значные кускі зямлі на-абапол яе.

## З усяго сьвету.

### Чума ў Англіі.

БЭРЛІН. Некалькі прыпадкоў чумы, каторые былі ў Гульлю (у Англіі), вызвалі страшэнны перэпалох між народам.

### Францускіе ваенные выдаткі.

ПАРЫЖ. «Temps» пішэ, што францускіе ваенные крэдыты ад пачатку вайны да канца гэтаго году дойдуць 61 мільярда.

### Папеж аб вайне.

ГААГА. У лістападзі Папеж склікае консысторыю і скажэ тамака прамову аб вайне.

### Справа шрыфту.

Японія адкінула свой шрыфт, каторы ужывала праз 2.000 гадоў, і прыняла лацінскі шрыфт.

